Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. | Вільня, 4 чэрвэня 1932 г. | № 16 (41)

## Дзьве тактыкі.

Як мы ўжо падавалі ў папярэднім нумары, польскія школьныя ўлады, хочучы прыйсьці з дапамогай нашым гімназіям у Вільні й Навагрдку, створаным высілкамі беларускага грамадзянства і ў працягу даўгіх гадоў змагаўшымся з напружаньнем усіх сілаў за свае існаваньне,—запрапанавалі такую няўдалую форму рэалізацыі гэнае дапамогі, што ўсё беларускае грамадзянства — замест удзячнасьці—абурылася ды страшэнна занепакоілася за лёс сваіх культурна-прасьветных пляцовак.

Беларускае грамадзянства, хаця й расьцярушанае і перасваранае ды разьедзенае вонкавай і ўнутранай правакацыяй, у гэты мамэнт выявіла даўно ня бачаную аднадушнасьць у ацэнцы кроку, зробленага п. Куратарам Віленскага Школьнага Вокругу. На адбытым 27-га траўня Надзвычайным Агульным Сходзе Бацькоўскага Камітэту Віленскае Беларускае Гімназіі прадстаўнікі ўсіх, існуючых сярод бацькоў і апякуноў вучняў, палітычных груп і кірункаў *аднагалосна выступілі проці ведамае прапазыкі вышэйшага прадстаўніка польскае школьнае адміністрацыі, бачучы ў ёй выразную небясьпеку для існаваньня самастойных беларускіх сярэдніх школ.* Але адначасна выявілася глыбокая разьбежнасьць паміж галоўнымі беларускімі палітычнымі групамі ў поглядах на тую *шактыку*, якое трэба дзяржацца, бароняччы нашыя культурныя пляцоўкі.

Прадстаўнікі хадэцыі прыйшлі з гатовым плянам: Яны папросту маніліся даць на грунцьце школьнае справы *бой Цэнтрасаюзу*, зусім няслушна ўскладаючы на яго віну за зроблены польскімі ўладамі крок. Няслушна, бо-ж толькі дзякуючы групе Цэнтрасаюзу ўдалося ў працягу чатырох апошніх гадоў утрымаць Віленскую Беларускую Гімназію, якую стараліся „узарваць" і камуністы, і „акіньчыцы", і — тая-ж самая хадэцыя. Няслушна, бо такі-ж самы крок, як у адносінах да Віленскае Беларускае Гімназіі, падпарадкаванае Цэнтрасаюзу, п. Куратар адначасна зрабіў і ў адносінах да Навагрдзкае Гімназіі, выступіўшае з Цэнтрасаюзу.

Хадэкі падзялілі між сабой ролі на сходзе. Першы выступіў — з звычайнай у яго бястактнасьцяй і непрызвычаістасьцяй — пасол Ярэміч. Ен рашуча заявіў, што апрацаваны грам. Луцкевічам праект адказу п. Куратару наагул добры, але трэба выступіць не ў такім тоне: трэба *пратэставаць больш востра.* Але хадэкі наагул ня будуць супольне з усімі бацькамі і апякунамі вучняў абгаварываць гэтае справы, пакуль Бацькоўскі Камітэт ня выйдзе з складу Цэнтрасаюзу. Пазіцыю, занятую пaслом Ярэмічам, сконкрэтызаваў у праекце асобнае рэзалюцыі студ. Стан. Станкевіч (пляменьнік кс. Станкевіча), які запрапанаваў *перарваць усялякія гутаркі з школьнай адміністрацыяй у справе, закранутай п. Куратарам у ведамым яго пісьме.* Тое-ж становішча, толькі ў больш „дыплёматычнай" форме, заняў і трэці прамоўца хадэцкае групы — кс. Адам Станкевіч, дзеяльнасьць якога ўжо даволі добра ведама беларускаму грамадзянству.

З усіх гэных прамоваў для прысутных сталася зусім ясным, што хадэцыю ня гэтулькі рупіць лёс гімназіі, колькі ёй ідзе аб пэўныя *палітычныя мэты.* Трэба аслабіць Цэнтрасаюз, дабіўшыся—шляхам свайго роду палітычнага шантажу — выхаду Бацькоўскага Камітэту з культурнае цэнтралі, якой зьяўляецца Цэнтрасаюз. Калі гэтая мэта будзе дасягнута, дык — можна і аб тактыцы не спрачацца, і навет—на рэзалюцыю грам. Луцкевіча згадзіцца... І прадстаўнікі Цэнтрасаюзу, дужа добра разумеючы ігру хадэкаў, самі запрапанавалі Бацькоўскаму Камітэту выйсьці з Цэнтрасаюзу, што і было прынята сходам.

Тады сталася тое, што і прадугледзілі дзеячы групы Цэнтрасаюзу: праект адказу п. Куратару, апрацаваны грам. Луцкевічам згодна з духам усяе дасюлешняе тактыкі Цэнтрасаюзу, аказаўся зусім прыемлемым для ўсіх і — пасьля дробных і нязістотных рэдакцыйных паправак ды наданьня яму больш рэзкага тону — быў прыняты сходам *аднагалосна.* Сталая тактыка Цэнтрасаюзу, якая ніколі не абмежывалася пратэстамі толькі дзеля дэманстрацыі, але заўсёды падыходзіла да справы рэчова і стаўляла дзяржаве конкрэтныя і зусім слушна абаснаваныя дамаганьні, аказалася добрай і ў вачох тых, хто толькі-што з такой дзікой ненавісьцяй выступаў проці Цэнтрасаюзу. Лёгіка ёсьць толькі адна: яна была на старане Цэнтрасаюзу і — перамагла. Ст. Станкевічу кс. Станкевіч загадаў ягоную рэзалюцыю зьняць...

Але хадэкі, пэўне-ж, будуць трыумфаваць: Бацькоўскі Камітэт, хоць і са згодай прадстаўнікоў Цэнтрасаюзу, выйшаў з складу апошняга, заявіўшы, праўда, што і да ніякае іншае цэнтралі ня ўвойдзе. Хадэцыя як-быццам перамагла. Але, адначасна з гэтым, *хадэцыя*, мо ня зусім сьвядома, *зрабіла вельмі паважны крок: яна так сама прыняла на сябе адказнасьць за далейшае існаваньне гімназіі*, каторай дагэтуль апекаваўся і за каторую нёс на сябе адказнасьць адзін толькі Цэнтрасаюз. І вось перад намі стаіць пытаньне: якую ж тактыку запрапануюць надалей паны Станкевічы і Ярэмічы: тактыку *дасяганьня* — ці тактыку *дэманстраваньня?*

Пагледзім, што будзе далей. Але папераджаем, што беларускае грамадзянства ніколі не даруе павадыром хадэцыі, калі яны, выкарыстоўваючы шчырае жаданьне Цэнтрасаюзу супольнымі сіламі ратаваць гімназію, змарнуюць яе дзеля нейкіх палітычных фэйервэркаў і давядуць да катастрофы. Скідаць адказнасьць на іншых тады ўжо будзе немагчыма.

## Надзвычайны Агульны Сход Бацькоўскага Камітэту ВБГ.

У сувязі з ведамай прапазыкай п. Куратара Віленскага Школьнага Вокругу, 27 траўня адбыўся Надзвычайны Агульны Сход Бацькоўскага Камітэту Віленскае Беларускае Гімназіі.

Сход гэты быў папярэджаны супольнай нарадай прэзыдыюму Бацькоўскага К-ту і сяброў Пэдагогічнае Рады ВБГ, ад удзелу ў якой ухіліліся толькі вучыцялі хадэкі. На нарадзе прапазыка п. Куратара была прызнана **немагчымай да прыняцьця**, пры чым вучыцялі заявілі, што гатовы працаваць далей „на галодных пайкох", абы ў сваей **самастойнай** гімназіі. Нарада прасіла гр. А. Луцкевіча апрацаваць — у мысьль выказаных паглядаў—праект уматываванага адказу п. Куратару. Тэкст адказу пастаноўлена было запрапанаваць прыняць на Агульным Сходзе 27 траўня.

Галоўныя мамэнты гэтага сходу ўжо адзначаны ў перадавой стацьці. Дапоўнім іх схэматычным аглядам падзеяў на сходзе.

Агульны Сход адчыніў віцэ-старшыня Бацькоўскага Камітэту гр. Кароль, выясьняючы мэту сходу. Было прачытана пісьмо п. Куратара, а пасьля—апрацаваны гр Луцкевічам праект адказу, тэкст якога—ў аканчальнай, крыху зьмененай, рэдакцыі, прынятай сходам,—ніжэй друкуем.

Дыскусія пачалася выступленьнямі хадэцкіх прамоўцаў — пасла Ярэміча, Стан. Станкевіча і кс. Станкевіча, якія павялі зусім не рэчовую атаку проці Цэнтрасаюзу, пакідаючы збоку справу далейшага лёсу гімназіі. Ім адказвалі гр. гр. Луцкевіч, Крук, Астроўскі і інш., адзначаючы шкоднасьць хадэцкае дэмагогіі для разглядванае справы. Урэшце, гр. Астроўскі, каб спыніць бясплодныя спрэчкі, зацямняўшыя істоту справы, запрапанаваў сходу прыняць бяз дыскусіі—аклямацыяй — пастанову аб тым, што Бацькоўскі Камітэт выходзіць з складу Цэнтрасаюзу, але ня ўвойдзе і да ніякае іншае цэнтралі ( — пару гадоў назад кс. Станкевіч і Ярэміч заклікалі гімназію далучыцца да хадэцкага Нацкому). Прапазыка гр. Астроўскага была прынята, і толькі тады дыскусія аб гімназіі ўвыйшла на рэчовы шлях.

**Усе прамоўцы, незалежна ад партыйнае прыналежнасьці, у самай рашучай форме трэба вылі адкінуць прапазыку п. Куратара.** Падобнае згодлівасьці ў паглядах на гэту справу даўно сярод беларусоў ня бывала.

Сход **аднагалосна** прыняў рэзалюцыю гр. Луцкевіча, прарэдагаваную аканчальна выбранай сходам камісіяй.

У заключэньне гр. Ільяшэвіч запрапанаваў сходу зьвярнуцца да ўсяе беларускае

**вай моладзі, з якой на 70% складаюцца вучні сучасных гімназіяў, —далей мэмарыял дамагаецца захаваньня ў поўні прыватнага школьніцтва, якое блізу цалкам можа скасаваць новы школьны закон.**

**Такі-ж мэмарыял украінцы выслалі ў ў Лігу Нацыяў, як скаргу на нарушэньне Польшчай яе трактатаў аб меншасьцях.**

### Масовыя арышты.

**У Бэрэжанах надовячы адбыліся масовыя вобыскі і арышты сярод украінскіх дзеячоў, западозраных у прыналежнасьці да Камуністычнае Партыі Заходняе Украіны.**

## З усяго сьвету.

### Адстаўка габінэту Брюнінга.

30 траўня габінэт Брюнінга падаўся ў адстаўку. Прэзыдэнт адстаўку прыняў. Ня можа быць сумліву, што новы нямецкі ўрад будзе мець характар выразна правы.

### Новы габінэт у Нямеччыне.

Прэзыдэнт Гіндэнбург даручыў утварэньне новага ўраду фон Папэну, з партыі цэнтру, аднак бяз згоды гэтае партыі, якая ад учасьця ў новым урадзе адмовілася. Новы ўрад будзе мець права-нацыяналістычны характар.

### Новы японскі ўрад.

Новы ўрад Японіі, створаны адміралам Саіто, складаецца з 4 кансэрватараў, 4 лібэралаў і 4 беспартыйных, у тым ліку ген. Аракі, як міністар арміі і флёту. Аднак, абодва афіцыяльныя правадыры партыяў Сэйюкай і Мітсэітс—барон Вакатсукі і доктар Сурукі—не ўвайшлі ў склад ураду. Цікаўна, што найлепшыя японскія дыплёматы, як гр. Ушыда, Матсудайра і інш., адмовіліся ад учасьця ў урадзе, дык чыннасьці міністра загран. спраў змушаны часова ўзяць на сябе прэм'ер.

### Інфляцыя і пагроза банкруцтва ў Японіі.

Фінансавае палажэньне Японіі зусім не такое добрае, як выдавалася яшчэ нядаўна. Дык вельмі падобна да праўды думка тых, што прарочаць фінансавае банкруцтва Японіі—ў выніку яе шанхайскай і манчжурскай авантураў. Бо-ж Японія ўжо зусім адкрыта стала на шлях інфляцыі.

Яе міністар фінансаў, пасьля адмовы ад залатога парытэту іены, мае зьвярнуцца да парляманту з дамаганьнем — павялічыць да мільярду іенаў выпуск банкнотаў, з засьцярогай, што—ў разе патрэбы—ўрад можа й пераступіць гэты рубеж.

### Японцы ачысьцілі Шанхай.

З Шанхаю выйшлі апошнія атрады японскіх войск.

### Арыштаваньні бальшавікоў у Харбіне.

Манчжурская (чытай: японская!) паліцыя ў Харбіне арыштавала да паў-тысячы савецкіх грамадзян, пераважна працаўнікоў Усходня-Кітайскай чыгункі, якія быццам мелі даручэньне ад радавага ўраду псаваць ды руйнаваць чыгунку, каб унемагчыміць карыстаньне ёй японскім войскам. Раскрыта быццам шмат падрыхтаваньняў да ўзрыву мастоў, майстроўняў дый іншых будынкаў на чыгунцы. Выбуховы матэр'ял, як цьвердзіць паліцыя, дастаўляўся з СССР.

### Крывавая бойня ў Бомбэі.

У Бомбэі (англійская Індыя) бясспынна йдуць крывавыя бai паміж мусульманамі і індусамі. Індусы тысячамі ўцякаюць з места ад расшалелых фанатыкаў, „падпаляных", відаць, „звонку"—у палітычных мэтах. Паліцыя аказалася бяссільнай уціхамірыць мусульман,—і прышлося паклікаць войска.

**Беларускі Студэнцкі Саюз ладзіць у суботу, 4-га чэрвеня, у салі Гандлёва-Прамысловага Клюбу (вул. Міцкевіча 33а) канцэрт БЕЛАРУСКАЕ ПЕСЬНІ. Пачатак канцэрту а 20 г. 30 м. Цана білетаў ад 1 да 5 зл.**

# ХРОНІКА.

— **З каго складаецца „Нацком"?** Хадэкі заўсёды маюць прэтэнсію на тое, што створаны імі „Нацыянальны Камітэт" прадстаўляе ўсё беларускае грамадзянства Заходняе Беларусі. Але вось „Бел. Крыніца" ў нумары з 30 траўня неасьцярожна апублікавала склад „Нацкому", які складаецца з прадстаўнікоў ад:

1) Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі;

2) існуючага толькі на паперы „нябожчыка" Сялянскага Саюзу („саюз Рагулі з Ярэмічам");

3) нейкага нікому няведамага „Беларускага Праваслаўнага Дэмакратычнага Аб'еднаньня", якое, паводле „Бел. Кр.", ёсьць... палітычнай партыяй;

4) Інстытуту Беларускае Гаспадаркі і Культуры (хадэцкага)

і 5) прадстаўнікоў беларускага праваслаўнага і каталіцкага духавенства (няведама толькі, дзе ёсьць гэнае „беларускае праваслаўнае духавенства", і хто выбіраў „прадстаўнікоў"?!).

„Іншых" арганізацыяў і інстытуцыяў „Бел. Кр." не называе, але мы ведаем адну: гэта — **прыватнае прамысловае прадпрыемства кс. Станкевіча і п. Ярэміча**—друкарня ім. Фр. Скарыны...

З гэтага пералічэньня відаць, што беларускае грамадзянства, апрача **часткі** клерыкалаў, з Нацкомам ня мае нічога супольнага. Прынамся — ясна! І за гэта трэба рэдакцыі „Бел. Крыніцы" шчыра падзякаваць.

— **Камуністычная правакацыя.** Камуністычная партыя, ўтраціўшы усякія ўплывы на беларускую школьную моладзь, ашуканскім спосабам ублутала яе ў камуністычную масоўку, якую зладзіла пад відам маёўкі 22.V. ў лесе пад Леванішкамі. Зразумеўшы ашуканства, большая часьць моладзі (вуч. бел. гімназіі і сэмінарыі), заявіўшы пратэст, пакінула „маёўку"; менш сьмелых камуністычныя агенты тэрорам змусілі астацца да канца іхніх агітацыйных прамоў.

Ахвярамі гэтае камуністычнае правакацыі сталіся: 1 вуч. гімназіі і 3-х вуч. сэмінарыі, якія звольнены са школ.

— **Дзе ўрэшце „знойдзены" камунізм.** Каму толькі ў нас ня кідалі закіду ў камунізьме, каб лягчэй расправіцца з палітычнымі ці класовымі працаўнікамі? Але закіды спадалі заўсёды з польскага боку на беларускія партыі, беларускія арганізацыі, беларускую прэсу.

Цяпер дайшла чарга і да польскіх.

У адным з апошніх нумароў віленскага „Слова" ведамы абаронца краёвых польскіх абшарнікаў, п. САТ піша літэральна:

„Артыкул п. Дэмбіньскага (у „Кур. Віл".)... ёсьць чыстай вады камунізм. Дый яшчэ горш, як камунізм, бо—чыстай вады саветызм. Гэта-ж — ідэолёгія барацьбы з буржуазіяй, барацьбы з дзяржавай, як творам капіталістычных хаўрусаў", Як можа (кліча ўжо паліцыю п. САТ!) друкаваць такія артыкулы „Кур. Віл.", які... зьвязаны, як ведама ўсім, у тэорыі і практыцы з ідэолёгіяй ўраду, гэта-ж значыць: з міністэрствам унутр. спраў, якое, як ведама, не падтрымлівае ў нас прапаганды камунізму, але наадварот: садзіць за яго „ў халодную"...

Вось дык так!...

Каб гэтак выразна сам п. рэдактар аднаго органу ўрадавае партыі „ташчыў" у „халодную" свайго калегу, рэдактара другога органу тэй-жа самай урадавай партыі, — такога відовішча, здаецца, мы дагэтуль яшчэ ня бачылі...

—**Агульны сход беларускага коопэратыву.** 25.V. Адбыўся агульны сход Коопэратыву „Спулдзельца". Год замкнёны, не зважаючы на цяжкі крызіс, з прыбыткам. Заслухаўшы справаздачу Ураду і Нагляднай Рады, сход даў Ураду абсолюторыюм, падзякаваўшы за працу. Пасьля адбыліся выбары Ураду. У склад Ураду ўвайшлі: Р. Астроўскі, А. Белабжэская і У. Манкевіч.

# Трагэдыя „Нёмна".

„Нёман", часопіс, прысьвечаны літаратуры, мастацтву і навуцы, перажывае цяжкую трагэдыю.

Часопіс быў закладзены з пачыну ведамага дзеяча — коопэратара гр. Будзькі. Часопіс—па думцы закладчыка — меў быць цалком беспартыйны, незалежны і апалітычны. Дзеля гэтага ўсё нашае грамадзянства ўскладала вялікія надзеі на тое, што ён згуртуе навакол сябе ўсё нашае пабітае на часткі, пасваранае грамадзянства. Здавалася, так яно спачатку й пайшло. Але на тое ў нашым грамадзянстве існуе гр. Я. Станкевіч, каб зрабіць немагчымай супольную працу навет у такім цалком апалітычным часопісу.

Адразу з першага нумару гр. Станкевіч пачаў рашучую барацьбу ў часопісу за сваю „адзіную граматыку", жадаючы зрабіць з „Нёмна" філію сваей „Роднай Мовы". Першы нумар „Нёмна", выпускам якога кіраваў Я. Станкевіч, як сэкратар рэдакцыі, — выклікаў сваей „вымовай ды правапісам" запраўдны скандал. У нашай газэце грам. А. Н. даў выражэньне агульнаму абурэньню нашага грамадзянства. І рэдакцыя „Нёмна" зараз жа палажыла канец „вольнай руцэ" гр. Я. Станкевіча ў часопісу. Той — пасьля нячуваных авантураў на рэдакцыйных сходах — паставіў справу рубам: або ён, як сэкратар — разам з сваей „собскай граматыкай", або ён адмаўляецца ад сэкратарства. Зразумела, што рэдакцыя „выбрала" апошняе. Але— ў выніку нячуваных авантураў, якія ўсьцяж дазваляў сабе рабіць на рэдакцыйных сходах гэты, здавалася-б, узгадаваны пэдагог, адзін па адным выходзілі з складу рэдакцыі яе сябры. Першы выйшаў гр. Ул. Самойла, заявіўшы, што „ён запрошаны быў, здаецца, да журнальнай працы, але не дзеля ўчасьця ў баі бykoў, ды што дзеля гэтага апошняга трэба на сход зьяўляцца зусім інакш азброеным і мець наагул больш вольнага часу"... Другім выйшаў гр. А. Стэповіч — пасьля няменш „гішпанскага" нападу на яго ў яго ўласнай кватэры з боку гр. Станкевіча. Гр. Стэповіч пасьля адмовы гр. Я. Станкевіча спаўняў чыннасьці сэкратара.

Здавалася-б, гр. Я. Станкевіч „перамог"... Але вось надышоў час выхаду № 3 „Нёмна". Гр. Я. Станкевіч патрэбаваў, каб яго асабісты адказ „Філёлёгу" (гл. стацьці ў нашай газэце) быў надрукаваны ў „Нёмне", як **артыкул не дыскусыйны, але рэдакцыйны...** Але гэтае запраўды-ж дзікое дамаганьне спаткала рашучую адмову з боку ўсіх астаўшыхся яшчэ сяброў рэдакцыі.

Тады гр. Я. Станкевіч „зьняў" свой адказ з балонак часопісу, а побач з ім і сябе самога з карку рэдакцыі... № 3 „Нёмана" выйшаў без яго.

Здавалася, усё цяпер пойдзе добра. У рэдакцыю вярнуліся ўсе разагнаныя Янкай Станкевічам сябры яе. І раптам сталася нешта такое, чаму, на першы пагляд трудна даць веры.

Паводле апошніх вестак, — выдавец „Нёмну", гр. Будзька, перадаў выданьне часопісу на ўласнасьць... гр. Янку Станкевічу, які і будзе адгэтуль фактычным і адзіным рэдактарам часопісу, а номінальным выдаўцом і рэдактарам яго мае быць яго пляменьнік Ст. Станкевіч...

На гэтым прыкладзе хіба аж залішне ярка адбілася тое запраўды-ж забойча-ненармальнае палажэньне, у якім, як знутры, так сама і звонку, апынулася беларускае грамадзянства ў Польшчы. Запраўды-ж — замест таго, каб беларускае грамадзянства— ў даным выпадку: выдавецка-рэдакцыйная група „Нёмну"—пазбылася кампраматаваўшага ды руйнаваўшага часопіс шкодніка, пераможцам над гэтай грамадзкай групай зьявіўся якраз гэты шкоднік. Для гэтай паважнай, адказнай, ахвярнай грамадзкай групы ніякіх сродкаў ані знутра, ані звонку дастаць не ўдалося. А вось—для гэтага шкодніка, для гэтай зусім непаважнай, цалком безадказнай з усіх бакоў, мала таго: цалком пазбаўленай даверу і пашаны з боку ўсяго грамадзянства адзінкі—няведама скуль магчымасьці прадаўжаць выданьне неяк знайшліся...

Ці ж можа быць больш ярка і больш сымбалічна выражаны наскрозь нездаровы стан нашага грамадзянства, як знутра, так сама і звонку?!.

Пры тым унутраным разьбіцьці нашага грамадзянства гэтак ёсьць і будзе надалей: з усіх магчымасьцяў заўсёды можа і будзе ажыцьцяўляцца не найлепшая, але найгоршая... Хай-жа гэты новы сумны доказ гэтага няўхільнага закону паслужыць новай перасьцярогай для нашага грамадзянства...

Quo vadis, Civitas Alboruthenia?

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22